Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 37 (133) БЕЛАСТОК, 14 ВЕРАСНЯ 1958 года ГОД III



*Стараста Дажынак — селянін з Вроцлаўскага ваяв. — Юзэф Узгарда складае Гаспадару Дажынак дажыначны вянок.*

*ЦАФ — фота Удавінскі*

## У калектыўнай гаспадарцы будучыня польскай вёскі

СКАРАЧЭННЕ ПРАМОВЫ ПЕРШАГА САКРАТАРА ЦК ПАРП УЛАДЫСЛАВА ГАМУЛКІ НА АГУЛЬНАПОЛЬСКІХ ДАЖЫНКАХ У ВАРШАВЕ 7 ВЕРАСНЯ 1958 Г.

*У мінулую нядзелю, 65 тысяч сялянскіх дэлегатаў з усіх раёнаў Польшчы прыехала ў сталіцу на святкаванні агульнапольскіх дажынак. Карагоды сялян у красачных нацыянальных касцюмах прывезлі ў Варшаву на стадыён Дзесяцігоддзя прыгожа прыбраны вянок залатога калосся збажыны — сімвал багатага ўраджаю, які сабрала сёлета працоўнае сялянства Польшчы.*

«Сённяшняя ўрачыстасць,— сказаў у прамове Гаспадар Уладыслаў Гамулка, — выраз пашаны, якую складаем працы сялян і ўсіх тых, хто працуе ў сельскагаспадарчай вытворчасці, выраз удзячнасці за іх работу, за плёны іх працы ў такой важнай галіне народнай гаспадаркі, якой з'яўляецца сельская гаспадарка».

У далейшым У. Гамулка адзначыў, што сельская гаспадарка ў нашым краі ўвайшла на рэйкі развіцця толькі ў гады народнай улады. У перыяд панавання абшарнікаў і капіталістаў уся эканоміка Польшчы, у тым ліку і сельская гаспадарка, знаходзілася ў пастаянным крызісе, застоі і заняпадзе.

Сельскагаспадарчая рэформа, пасяленне на вернутых Польшчы Заходніх і Паўночных землях і адначасова шырока разгорнутая індустрыялізацыя краіны, якая выклікала пераход мільёнаў людзей з вёскі на працу ў горадзе, радыкальна змянілі структуру сялянскіх гаспадарак. У спалучэнні з палітыкай народнай дзяржавы ўсё гэта павялічыла значна прадуктыўнасць працы работнікаў сельскай гаспадаркі і вартасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Ураджаі павялічыліся. Сёння селянін выпрацоўвае сельскагаспадарчых прадуктаў на 80 прац. больш, чым да вайны, а на кожнага жыхара Польшчы прыходзіцца па 40 прац. больш сельскагаспадарчых вырабаў, чым у даваенны перыяд.

Амаль у 2 разы павялічылася колькасць свіней. Лік кароў пакуль што не зраўняўся з даваенным, аднак малочнасць павялічылася на 400 літраў ад штукі. Ураджай збожжа павялічыўся з 11,4 ц. з 1 га ў 1934 — 38 г. г. на 15 ц. з 1 га ў мінулым годзе.

Нягледзячы на агромныя грашовыя ўклады дзяржавы, вытворчасць у гэтай галіне народнай гаспадаркі ўзрастае слаба і не паспявае за патрэбамі прамысловасці і горада. Таму неабходна ў гады наступнай пяцігодкі (1961—1965) ураджай з 1 га павялічыць да 17 ц. Каб дабіцца гэтага неабходны намаганні ўсіх сялян і людзей, якія працуюць у сельскай гаспадарцы.

Каб вынікі гэтых намаганняў былі плённымі, патрэбна супольная калектыўная дзейнасць. Малазямельныя і серадняк і павінны аб'ядноўвацца ў сельскагаспадарчых і машынных гуртках, каб мець магчымасць супольнымі сіламі купіць патрэбныя машыны і стасаваць дасягненні сучаснай агратэхнікі на сваіх палях, супольнымі сіламі бараніцца ад захланнасці багачоў. Аднак у існуючых ужо гуртках замала малазямельных сялян, замала іх у кіраўніцтве гэтых гурткоў і заслаба чуваць там іх голас.

Гледзячы на будучыню нашай вёскі, трэба ведаць, што новая зямля не расце, а колькасць людзей з кожным годам у вёсцы павялічваецца. На сённяшні дзень у Польшчы звыш 55 прац. гаспадарак — гэта гаспадаркі ад 0,5 га да 5 га. Ці можна іх дзяліць на меншыя? Далейшы падзел такіх гаспадарак паміж членамі сям'і на працягу аднаго пакалення давядзе да поўнага заняпаду, а ў выніку краіне будзе пагражаць недахоп таварнага хлеба. Таму забеспячэнне павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі і развіцця ўсёй гаспадаркі краіны магчыма толькі шляхам пераходу вёскі да калектыўных форм гаспадаравання. У карысць калектывізацыі нашай вёскі гаворыць і неабходнасць механізацыі сельскагаспадарчых работ, якая магчыма толькі пры наяўнасці вялікіх абшараў зямлі.

(Працяг на стар. 2)

## Маскоўскія артысты ў Беластоку

Пятага верасня прыбыла на Беласточчыну Маскоўская эстрада. Свае гасцінныя выступленні госці пачалі ў Ломжы. У мінулую нядзелю калектыў даў канцэрты ў Аўгустове і Сувалках.

У Беластоку адбылося выступленне ў панядзелак — 8 верасня. Тэатр перапоўнены. Хвалі смеху каціліся па зале, калі заслужаная артыстка РСФСР Рына Зялёная дэкламавала дзіцячыя апавяданні — «Перад сном», «Незвычайная прыгода» і «Запрашэнне». Вельмі спадабалася публіцы выступленне салісткі Галены Швяцовай. Апошнія строфы польскай песні «Пік, гік» Шпільмана, артыстка спявала па - польску, што выклікала бурныя «біс». Доўга не выпускалі са сцэны Міхаіла Ражкова — віртуоза ігры на балалайцы. Усеагульнае захапленне выклікаў сваёй майстэрскай ігрой на баяне Анатоль Бяляеў — лаўрэат VI Фестывалю ў Маскве. Зачароўваў сваім басам спявак Барыс Добрын. З асаблівым гумарам была ўспрынята «Балада аб блысе» Мусаргскага.

Выступалі таксама заслужаныя артысты Грузіі з Тбілісі. Паланілі гледачоў грузінскія нацыянальныя танцы ў выкананні Георгія Патарая і Канстанціна Лаладзе. А выступленне пары грузінскіх ілюзіяністаў — Ірыны і Давіда Чыташвілі, поўнасцю заваражыла гледачоў.

Ад імя грамадскасці Беластока сардэчна дзякавалі артыстам кіраўнік рэферата культуры Гарадской рады грам. Чаркоўскі і актар тэатра імя А. Вянгеркі В. Шумовіч. Уручана мноства кошыкаў кветак, між іншым, кошык кветак уручыла Галоўнае Праўленне Беларускага таварыства.

У адказ, з сардэчнымі словамі выступіў маскоўскі артыст — Міхаіл Ражкоў.

(ся)

## Пастановы ЦК КПСС аб скліканні XXI надзвычайнага З'езду партыі

Пастановай з 5 верасня г. г. Пленум ЦК КПСС пастанавіў склікаць 27 студзеня 1959 года надзвычайны XXI З'езд КПСС, які прысвячаецца разгляду кантрольных паказчыкаў развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959 — 1965 г. г. Дакладчыкам зацверджаны . першы сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў. Пленум устанавіў нормы выбару дэлегатаў на З'езд. Пленум вызваліў М. А. Булганіна ад абавязкаў члена Прэзідыума ЦК КПСС.

## Пакліканы грамадскі камітэт пабудовы тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку

8 верасня г. г. у Доме друку ў Беластоку адбылося .пасяджэнне аматараў тэлебачання, на якім па ініцыятыве «Польскага Радыё» быў пакліканы арганізацыйны камітэт пабудовы тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку. Пабудова тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку будзе найлепшым падарункам у гонар 1000-годдзя існавання Польскай дзяржавы.

## Увага, Белавежа і Гайнаўка

14 верасня г. г. у Белавежу і Гайнаўку выязджае Беларускі калектыў песні і танца. У праграме новыя песні і танцы, якія падрыхтаваў калектыў да выезду ў БССР.



*Фрагмент паказу народных танцаў на Цэнтральных Дажынках у Варшаве.*

*ЦАФ — фота Ухымяк*

